# Самапамач Samapomač

*Беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс*
„SAMAPOMACZ“

Rok VIII. Wilno, Marzec 1939 r. № 3 (89).

Год VIII. Вільня, Сакавік 1939 г. № 3 (89).

*Аб чым піша «Самапомач»:*



Рэдакцыя і адміністрацыя: Вільня (Wilno), Завальная вул. 1.





# Людзкія хлопаты нашымі хлопатамі

Як ня ўсе радасьці іншых народаў цешаць сялянскі народ наш беларускі, так і ня ўсе хлопаты зьяўляюцца хлопатамі нашымі. Чаму так ёсьць, гаварыць тут ня будзем; даволі, што гэта сабе ўспомнім і сьцьвердзім. А нашто гэта робім, зараз скажам.

Ня так даўна старшыня польскага ўраду, генэрал Складкоўскі, высказаў думку, што баіцца вылюдненьня вёскі, гэта знача масавага ўцяканьня вяскоўцаў у горад. Думка гэта спаткалася з усялякай ацэнкай: адны хвалілі яе, іншыя маўчалі, а йшчэ іншыя — проста ганілі і сьмяяліся. Сярод гэтых апошніх знайшліся і нашы „добра знаёмыя“ абшарнікі, якія нядаўна найвыразьней прызналіся, чаму так хацелі-б лішку беларускіх сялян перасяліць у гарады і прамысловыя цэнтры: каб адарваць нашага селяніна ад роднага асяродзьдзя і лягчэй яго пасьля спольшчыць*).

Дзе тут праўда?

Найнавейшая навука згодна кажа, што сялянства гэта сягоньня ня толькі нейкая, хоць-бы і найважнейшая, складовая частка народу, але гэта проста агульна-прызнаны ягоны рэгенэратар (абнаўленчая сіла): там, дзе гэты рэгенэратар з тых ці іншых прычынаў запыняўся, там зараз-жа астанаўлялася і сіла народу. Таму ва ўсіх прамысловых краёх бачым сягоньня стараньні ўтрымаць сялянства на вёсцы, папраўляючы аднача сна варункі вясковага жыцьця. Гэтак паступае сягоньня Францыя, у якой за час 1909 да 1934 г. плошча арэміны зьменшылася больш як на 11 прац., а лік гаспадарак з 5.7 млн. апаў да 4 млн.; гэтак паступаюць Швайцарыя і Англія забесьпячаючы адпаведна цэны на мясцовыя земляробскія прадукты; тое самае бачым у далёкай Аўстраліі і Амэрыцы (Злуч. Штатах і ў Канадзе); тое самае робіць суседняя Латвія, Нямеччына, а ў Швэцыі дайшло быццам да таго, што ў арэнду даюцца гаспадаркі зусім дарма.

Што ўсё гэта знача? Гэта знача, што неаплатнасьць працы пры земляробстве, у параўнаньні з іншым заняцьцем, сталася агульнай і што кожны здольны да працы і ня зьвязаны з вёскай нічым больш, як самым толькі ўтрыманьнем сябе пры жыцьці, пакідае ўсё і йдзе ў места. І што атрымоўваецца?

У нас да гэтага йшчэ можа далёка, але такія вось Немцы ўжо сягоньня адчуваюць недастатак працоўных рук у земляробстве. Усьлед за гэтым ідзе перапрацаваньне, перад усім жанчынаў, якія ад гэтага набаўляюцца розных хваробаў, пасьля якіх лічба радоў катастрафальна зьмяншаецца, ня толькі ў местах, але й на вёсцы. А чаго варта „гарадзкая культура“ для сілы народу, гэта паказвае тая самая статыстыка нямецкая: калі яшчэ прад 50 гадамі (1881—1890) у нямецкіх гарадох лік жыва-народжаных дзяцей быў 35.1 прац., дык у 1906—1910 г. г. быў ужо толькі 29 прац., а ў 1924-30 г.г.— усяго 17.3 прац. — Бачым з гэтага, як горад спачатку цягне ў сябе жывыя сокі народу, а пасьля іх пажырае. Не бяз прычыны дзеля таго называюць гарады грабамі народаў: бо й што асталося-б з го-

*) Глядзі „Самапомач“ № 7, 1938 г.: „Як і нашто хацелі-б паны ўпрамысловіць „Крэсы“?

раду, калі-б запыніць даплыў у яго вясковых сіл у працягу аднаго-другога дзесятка гадоў? Гроб!

Паўтараем: сягоньня раўнаваць адносіны нямецкія да беларускіх азначала-б часта тое самае, што выстаўляць самога сябе на сьмех. Але... Але маем мы і нешта супольнае, што пры сягоньняшніх варунках выйшла-б на нашу некарысьць. Гэтым „супольным" ёсьць пачуцьцё вяскоўца, што ягоная праца пры земляробстве кепска аплачваецца: падчас, калі нямецкі селянін знойдзе сягоньня ў сваім горадзе апеку і дабрабыт, дык на беларускага селяніна, як толькі ён пакіне сваё асяродзьдзе, чакае здраднае сіло, з якога ён можа ўжо і не дастацца назад.

А другая рэч — не тады адхрышчывацца ад гарадоў, калі яны ўжо разрасьліся і душаць народ. Гісторыя іншых народаў мусіла-б нечага вучыць і нас.

Дзеля ўсяго гэтага, калі хто радзіць пакінуць зямлю і йсьці ў горад, дык перад усім 'варта пацікавіцца, ці ён сам гэта зрабіў, а пасьля ясна ўявіць сабе, што і каго ў такім горадзе можа чакаць. Урэшце не без значэньня і думка найлепшых знаўцоў людзкога гаспадарства, што ідэалам народу павінна быць **сяло—горад**, — сяло з разбудаваным жыцьцём культурным і гаспадарска-прамысловым. Гэткія хлопаты сягоньня агульналюдзкія; яны-ж на дальшую мэту зьяўляюцца адначасна і хлопатамі нашымі, беларускімі.

# Ці была ў Вас ужо клясыфікацыя зямлі?

**Ня кожны, далёка ня кожны могбы адказаць на гэта пытаньне. А гэта-ж так да жывога мусіць цікавіць нашага** селяніна, дзеля таго хоць-бы ўжо, што ад гэтага хутка будзе залежыць, колькі ён будзе плаціць усялякіх падаткаў, як: грунтавы, самаўрадавы, дарожны, дадаткавы („вырувнавчы"), а нават і дахадовы, калі хто яго плаціць абавязаны. Але бліжэй да рэчы.

Што такое клясыфікацыя? Гэта ёсьць **ацэнка**. У нас да гэтай пары ўласьціва кажучы зямля (грунт) ня была ацэньвана. Сучасная ацэнка ідзе ўжо чацьверты год і мае за заданьне ацаніць якасьць (ня вартасьць) ня толькі аромага поля, але так-жа сенажацяў, пасьбішчаў, садоў і прыватных (не казённых) лясоў. Рахуюць, што гэта ўся работа павінна быць скончана ў 1942 годзе.

З вышэй сказанага відаць, як важнае значэньне для гаспадаркі можа мець такая клясыфікацыя. А адбываецца, паводле закону, павінна яна публічна, гэта знача, што падчас праводжаньня ацэначнай працы ўсе ўласьнікі грунту могуць і павінны быць на сваім полі. Ацэнку такую праводзіць клясыфікатар, які наўперад павінен склікаць агульны сход вёскі ці грамады і на гэтым сходзе вытлумачыць прысутным, што такое клясыфікацыя, нашто і як яна праводзіцца; павінен абзнаёміць з законам, на якім клясыфікацыя апіраецца, з клясамі (гатункамі) зямлі, на якія гэта зямля дзеліцца, і — што вельмі ёсьць важным — з спосабамі падаваньня сваіх увагаў і скаргаў, калі хто з клясыфікацыяй чамусьці будзе нездаволены.

Якасьць зямлі азначае клясыфікатар на падставе разрэзу (гладка выкапанай ямы) ў паўтара мэтра глыбокага. Да якое клясы кожны такі разрэз запісваецца, клясыфікатар на месцы павінен усім публічна сказаць. Натуральна, павінен гэта чуць перад усім сам уласьнік грунту.

Састаўлены з гэткай ацэнкі сьпісак грунтоў мае быць падставай гэтак званага **рэестру грунтавога**, агульнага для ўсяго краю.

Дык кожны, у сваім собскім інтарэсе, павінен дапільнаваць, калі і як у ягонай вёсцы будзе праводзіцца клясыфікацыя зямлі.



# Што пасееш, то' й пажнеш

Сяўба недалёка. Не пашкодзіць дзеля таго сёе тое аб ёй успомніць. А ўспомнім рэчы зусім простыя і лёгкія, якія аднак стала ў нас недацэньваюцца, з найвялікшай для самых-жа нас шкодай.

Здаецца „простая рэч" сказаць „прыгатуйма добрае насеньне!" А як яно ў жыцьці бывае? Як кінецца такое насеньне з восені вымалачанае, так ім ніхто да вясны і не пацікавіцца. Можа яно ў гарудзе заплесьніць, можа стухнуць, могуць яго пагрызьці мышы — а яно ляжыць, чакае сяўбы... Гэтак ня можна. А ўжо прынамся з першым праблыскам вясны трэба збожа празначанае на насеньне дастаць з гаруда, перасыпаць, перапусьціць праз млынок (арфу). І ўсё?— О, не!..

Гэтак толькі ачысьцім насеннае зерне ад мякіны і ў найлепшым выпадку ад кускоў зерня пагрызеных мышамі ці йнакш пакалечаных. А йшчэ-ж у гэтым насеньні напэўна асталася цэлая процьма насеньня рознага пустазельля, асталіся зерняткі недаразьвітыя, а галоўнае — ў найлепшым нават зярняці асталіся мільёны і мільярды розных хваробных зародкаў: яны аджывуць або як толькі дастануцца ў зямлю, або крыху пазьней — і ўраджай моцна паглумяць, а часам і зусім зьнішчаць. Нічога добрага ня вырасьце з тых зярнят недаразьвітых, не гаворачы ўжо зусім аб глухіх. Аб шкоднасьці ўсходу ў збожы рознага пустазельля і гаварыць ня трэба. — Што-ж тады рабіць?

Па парадку і коратка: Зерне перасеенае і ачышчанае ад мякіны трэба ачысьціць ад чужога насеньня (збожа ад сачыўкі, гароху, авёс ад ячменю і г. д.). Робіцца гэта на асобных прыладах, якія можа за дарагія для кожнага гаспадара асобна, але якія можна ўжо сямтам (у кооп эратывах, у гмінах) за малую плату выпазычыць. Гэта розныя млынкі, зьмеявікі, трыеры і г. д.

Асобна стаіць справа затруваньня хваробных зародкаў на пасеўным насеньні ці г. зв. байцаваньне. Ёсьць многа на гэта спосабаў, як ад многіх лечаць яны хваробаў. Аб ужываньні гэтых спосабаў мы ня раз ужо пісалі і паўтараць тут ня будзем. Ды ўрэшце, хто захоча сваё насеньне байцаваць, той купляючы адпаведныя да гэтага парашкі даведаецца і як іх ужываць. Зазначым тут толькі, што празорны гаспадар ня сее нават купленага заводнага насеньня, прад тым яго не прабайцаваўшы.

Адным словам, хто аб прыгатаваньні пасеўнага насеньня ў час пастараецца, таму ўраджай адудзячыцца.

*Ф. Ст.*

# Больш сэрадэлі!

Калі бульба й жыта зьяўляюцца галоўнымі расьлінамі нашых лёгкіх глебаў для пракармленьня самага чалавека, дык найцаньнейшай пашнай расьлінай на гэтых-жа глебах хіба будзе сэрадэля, якая ня любіць грунтоў моцных і зьліўных, а добра ўдаецца на вогчых (ня сухіх) пяскох і на грунтох пяшчана-глінястых. Удаецца сэрадэля і на пяскох сухіх, калі трапіцца сыры год, а нават і ў годзе сухім на гэткіх пяскох можа сэрадэля ўдацца, калі толькі была ў добры час пасеена, а сама зямля была належна прыгатавана і пагноена.

У чым-жа такая асаблівая вартасьць сэрадэлі?

Вартасьць сэрадэлі траякая: як корму (сьвежа-зялёнага і сушанага), як успульхняча зямлі і як таннай сілы, якая вяжа дарагі і недаступны азот з паветра.

Што сэрадэля ёсьць кормам першай якасьці, аб гэтым ведае кожны. Не навіна для нікога з земляробаў таксама і тое, што зямля па сэрадэлі астаецца ў стане вельмі пульхным. Зусім асаблівай своймасьцю сэрадэлі ёсьць ейная здольнасьць узбагачываць зямлю на гэткі цэнны гной, як азот: сэрадэля прыцягвае гэты азот з вольнага паветра пры помачы спэцыяльных бактэрыяў, якія сядзяць у бародаўках, на карэньнях сэрадэлі.

Як-жа сеяць і гадаваць сэрадэлю, а галоўнае, як пад яе прыгатаваць грунт?

Сэрадэля вымагае добра выробленай зямлі, чыстай ад пырніку. Трэба яе ў папярэднім яшчэ годзе падзябіць (мелка ўзараць аржышча), дачыста выбаранаваць (калі можна—дык выдрапакаваць) і на зіму глыбока (але не ў мярцьвячыну) узараць. Вясной ворка непатрэбна, а па цяжэйшых грунтох нават шкодная, асабліва, калі ўзараныя грабяні ня бу-

дуць з а р а з-ж а забаранаваныя. Першай вясьнянай снасьцю на такую зямлю павінна быць валачыла, а як яго няма, дык барана; культыватар патрэбны бывае часам толькі на землях зьліўных, цяжэйшых.

Акрамя самага прыгатаваньня зямлі, трэба яе найчасьцей яшчэ прыгнаіць потасам, даючы на гэктар раньняй вясной мяшкі са тры, а йшчэ лепш чатыры 20 прац. потасавай солі.

Урэшце сама сяўба, якую трэба правесьці як *найраней*, каб выкарыстаць глебавую зімовую вогкасьць. Вот-жа сеецца сэрадэля або сама адна, як гэтак званая расьліна галоўная і тады на гэктар даволі даць яе 45 клг. Часьцей аднак сеюць сэрадэлю як усеўку, перад усім у жыта. У кожным з гэтых выпадкаў сэрадэля вельмі баіцца ўсякага пустазельля, сама-ж яна, буйна разьвіўшыся, ня раз глушыць жыта. Сэрадэля, як усеўка ў жыта, уласьціва разьвіваецца аж пасьля таго, як жыта сажнецца. Калі сэрадэлі пагражае пустазельле, дык яно звычайна перарастае яе, і на гэта ёсьць адна рада — пустазельле гэта паверсе скасіць яшчэ перад расьцьвітаньнем.

Сэрадэля як усеўка найчасьцей скармліваецца на зялёна або—радзей—заворываецца як зялёнае ўгнаеньне; сэрадэля высейваная сама адна звычайна або гадуецца на насеньне, або косіцца і сушыцца на зімовую пашу.

*С. Я—віч.*

# Ці можна ўсьцерагчыся заразы?

Вясна ўжо за парогам, а там і лета блізка. Цешыць гэта кожнага. Але палеха гэта часам бывае ў гаспадарцы і хлапатлівай. Думаю пры гэтым аб розных заразных хваробах гаспадарскай жывёлы, якія ў гэту пару вельмі часта здараюцца. А здараюцца яны з дзьвюх галоўных прычын: 1. пры цёплай пагодзе лёгка множацца ўсякія, а значаі заразныя бактэрыі, якія і нападаюць асабліва на жывёлу вымучаную вясьняным недаяданьнем; 2. чалавек наш найчасьцей не разумее, якой небясьпекай для яго зьяўляюцца гэтыя бактэрыі і скуль яны ў гаспадарцы бяруцца. Насколькі першая прычына блізу цалкам ад чалавека незалежная, на гэтулькі другая ў значнай меры ад яго залежа і, як такая, пры добрай волі можа быць абмежавана або ў пэўных выпадках можна нават ад яе і зусім забясьпечыцца. Аб гэтым апошнім, гэта знача аб агранічэньні і забесьпячэньні, мы тут крыху й пагутарым.

Сказана было ўжо, што прычынай заразных хваробаў жывёлы — і чалавека — зьяўляюцца хваробныя бактэрыі. Скуль яны ў гаспадарцы бяруцца? Каб адказаць на гэта пытаньне, прыпомнім сабе на хвіліну, як гэта бывае ў нашых гаспадарках, калі хочам сёе-тое з жывёлы прадаць ці купіць.

# Meljoracyja

Mnoha ciapier napładziłasia słoŭ da siabie ŭzajemna padobnych, jakija adnak majuć značeńnie zusim roznaje. Z adnaje tolki haliny ziamielnaje palityki raz za razam čujem słovy takija, jak komasacyja, jak parcelacyja, melioracyja, klasyfikacyja, intensyfikacyja i mnoha-mnoha inšych. Na pieršy pahlad słovy hetyja navat da siabie padobnyja, ale jak pryhledzicca bližej, dyk vychodzić inakš. Padčas, kali takaja napr. komasacyja aznačaje scaleńnie asobnych kuskoŭ ziamli ŭ adzin cely, dyk parcelacyja aznačaje čynnaść jak raz advarotnuju: razdrableńnie ci padzieł adnaho kuska ziamli — ci čaho inšaha — na niekalki kuskoŭ.

A što takoje *melioracyja*? Słova heta łacinskaje i pabiełarusku jano aznačaje *palapšeńnie*. U štodziennym značeńni heta słova ŭžyvajecca najčaściej jak samaje tolki a s u š a ń n i e hruntoŭ, bo čałaviek zvyčajna i dumaje, što asušańniem hruntu ŭsio ŭžo palapšeńnie i končyłasia, u sapraŭdnaści adnak tak jano nia jość. Asušańnia patrabujuć hrunty padmokłyja, a hrunty suchija jakraz patrabujuć zalivańnia, jakoje tut taksama treba nazvać melioracyjaj. Taksama melioracyjaj nazyvajecca takoje napr. vyraŭnańnie ŭsiakich kupinaŭ na poli, łuzie ci na paśbiščy, sabrańnie kamieńnia, vyciareblivańnie kustoŭ i chmyźniakoŭ i ŭsio padobnaje, što palepšyvaje hlebu, što robić jaje bolš uradžajnaj, cańniejšaj, daražejšaj. Hetak razumiejučy melioracyju, nia trudna dadu-

Маем нешта прадаць: цялё, кабана, жарабя. Як гэта адбываецца? Прыходзе купец, яго ўпускаем ня толькі на панадворак, але так-жа ў хлеў. У хляве-ж ён не стаіць бязчынна, ён ходзіць, абціраецца, аглядае жывёлу з усіх бакоў і г. д. А прыпомнім-жа сабе, гдзе ён прац тым мог быць і куды ад нас пойдзе? Ён-жа мог быць пару мінут таму назад пры нейкай хворай жывёле і стуль на ботах сваіх, на руках, на вопратцы ў яго поўна і поўна гэтых-жа заразных бактэрыяў. І бактэрыі гэтыя не сядзяць бязрадна: яны кідаюцца на ўсё, што сустрэнуць, і — нішчаць. А чалавек цёмны думае, што гэта напасьць нейкая або што гэта „з вачэй.“

З усяго гэтага першая навука: гандляроў і наагул незнаёмых людзей у хлеў ні пад якім відам ня пускаць. А калі прыйдзецца штосьці прадаць і такога купца паклікаць, дык клічма яго толькі на панадворак і на гэты-ж панадворак выводзьма прадаваную жывёлу.

Іншым спосабам уцягваньня хваробы ў гаспадарку ёсьць купляньне гэтай жывёлы, асабліва купляньне ад людзей нязнаных. Такая жывёла на пачатак можа сапраўды не здраджаць (не паказваць) на сабе ніякіх знакаў хваробы, а расхварэецца па нейкім толькі часе. І тут навука такая: новакупленую жывёлу ніколі ня ставіць адразу ў хлеў разам з усей іншай жывёлай гаспадарскай, а паставіць яе асобна прынамся на два тыдні, а то й болей. І калі па гэтым толькі часе ніякія знакі хваробы не пакажацца, можна такую жывёлу ставіць у хлеў супольны.

Яшчэ іншы спосаб, якім дастаецца ў гаспадарку ўсякая зараза, гэта калі сам гаспадар ці хто іншы з хаты бывае ў гаспадарках і хлявох чужых, ці хоцьбы спатыкаецца з людзьмі, якія каля хворай жывёлы ходзяць, як: фэльчары, разьнікі ці хоць-бы толькі самыя асобы, якія такую жывёлу кормяць і даглядаюць. Небясьпека таксама пагражае і тады, калі жывёлу сваю кормім ці поім з чужога вядра, жлаба ці якога іншага начыньня, або і дома скармліваем такія адпадкі з кухні, як памыі з купленага няведамага мяса, ці выкідаем іх на сьмятнік. Усё гэта можа быць разсаднікам заразы.

А што рабіць, як міма ўсяе асьцярожнасьці такая зараза ў гаспадарку ўсёж-ж дастанецца?

Першая і найважнейшая рэч—гэта не дапусьціць, каб яна перакінулася на жывёлу іншую, яшчэ здаровую. Усякую хворую а нават і толькі падазроную жывёлу, калі разам з ей стаіць жывёла здаровая, трэба зараз-жа вывесьці ў асобнае памяшчэньне, гной спад яе выкінуць і **спаліць**(!), а ўсё стойла дакладна вычысьціць і выбяліць вапнай. Таксама вычысьціць трэба вёдры і жлабы; асобна пастаўленая хворая жывёла павінна мець усю снасьць для сябе асобную, а добра было-б, каб каля яе хадзіў і асобны чалавек, які з здаровай жывё-

---

macca, što i šmat što z čynnaściaŭ komasacyjnych taksama možna było-b zaličyć da melioracyi; napr. choć-by takoje vyprastoŭvańnie hranicaŭ pola, abo kasavańnie servitutaŭ i enklavaŭ, umacoŭvańnie bierahoŭ rek i vyprastoŭvańnie ichniaha łahva i h. d. Hetyja čynnaści komasacyi i melioracyi ŭzajemna zazublivajucca i tamu vielmi časta zakon ab komasacyi damahajecca, kab razam z komasacyjaj (scaleńniem, pierachodam na chutary) była praviedziena i taja ci inšaja melioracyja.

Praviadzieńnie melioracyjnych pracaŭ u poli vymahaje časta vialikaha ŭkładu pracy i kapitału. A dziela taho, što niekatoryja melioracyjnyja pracy, jak napr. umacavańnie rečnych bierahoŭ, majuć charaktar nia tolki pryvatna-haspadarski, ale i publičny, dyk na praviadzieńnie takich pracaŭ (asnaŭnych, papolsku „zasadniczych“) dajucca dapamohi z kasy samaŭradaŭ i navat kazionnaj; apošniaje zdarajecca asabliva tady, kali takaja melioracyja maje značeńnie abaronnaje, na vypadak vajny. Dapamoha takaja vynosić ad 50 da 70 pracentaŭ ahulnaha kaštarysu.

Usio dahetul skazanaje ab melioracyjach nie adnaho pavinna navieści na dumku, što zmelioravany hrunt heta ŭłaściva toje samaje, što nad chataj nadbudavany jašče adzin pavierch (etaž). I zusim pravilna, bo takaja ziamla sapraŭdy byccam atrymoŭvaje novuju jašče vartaść, jakoj dahetul nia mieła. Z hetaha paznańnia adnak vypłyvaje i abaviazak: va ŭsialakich pastupkach haspadarskich kiravacca rozumam i vyrachavańniem. Reč u tym,

# Гаспадарская хроніка

**Лянное сяменьне з Літвы** маюць прывозіць у Польшч. Сяменьне гэта блізу на палавіну танейшае ад сяменьня мясцовага, — за 100 кілё ў Польшчы плацяць 50 зл., а ў Літве толькі каля 26 зл. Ці гэта цана адаб'ецца і на цане мясцовай—тымчасам няведама, ведама толькі, што мясцовае сяменьне ўжо блізу выкуплена. Так прынамся цьвердзяць мясцовыя алеярні, якія вельмі ахвотна куплялі-б раньняе сяменьне літоўскае.

**Крэйда ў Бярозе-Картускай.** Дабываная дагэтуль гаспадарскім спосабам крэйда ў ваколіцах Бярозы-Картускай на Палесьсі навяла некаторых людзей на думку пачаць дабываць гэту крэйду спосабам новачасным. У зьвязку з гэтым маюць тут паўстаць адумысловыя фабрыкі.

**Гавораць аб манаполі на збожжа,** г. зн. што ўсе лішкі збожа ад сялян выкупліваліся-б па цьвёрдай цане, а сяляне ня мелі-б права прадаваць свайго збожа з вольнай рукі. Дагэтуль аднак у гэтай справе думка як ураду так і фаховых арганізацыяў вельмі нязгодная. Манаполь такі ўжо маюць Чэхаславаччына, Латвія, але там яго вядзе добра разбудаваная коопэрацыя, аб чым ня можа пахваліцца коопэрацыя польская.

**Кірмаш »Паўночны«** сёлета адбудзецца ў Вільні ў міжчасе ад 19 жніўня да 3 верасьня. На Кірмашы гэтым думаюць сарганізаваць яшчэ выстаўкі: 1. зёлкаў, грыбоў і консэрваў, 2. лёну, 3. рыбацкую, 4. пчалярскую, 5. гадаўляную, 6. лясьніцкую і паляўнічую.

**Пазыкі** на даканчэньне гаспадарскіх будынкаў мае даваць Зямельны Банк („Банк рольны") праз Гмінныя ашчадна-пазычковыя касы. Пазыка, у суме найбольш 600 зл., мае давацца на сплату ў працягу 5 гадоў пры апрацэнтаваньні 4 зл. ад соткі ў год. Аб пазы-

---

лай не спатыкаўся-б. Калі-б міма ўсяго гэтага адратаваць жывёлы не ўдалося і яна загінула, дык і тут аб забесьпячэньні забывацца ня можна, бо гэта магло-б быць дальшаю згубаю для сябе і для іншых: падліну трэба закапаць найменш на два мэтры ўглыбку, у сухім месцы (каб не падцякала вада і невыпаласківала заразы ў нейкія воды адкрытыя, як ставы, сажалкі, ручаі а нават і студні). Скуру падліны трэба парэзаць, абліць карасінай і пасыпаць паленай вапнай.

Гэта, ведама, ужо выхад найгоршы. Але, калі памятаць, як зараза ў гаспадарку дастаецца і як там разьвіваецца, дык сьмела можна сказаць, што „сьцеражонага і Бог сьцеражэ."

*Др. Ю. З.*

---

što jak nie apłačvajecca na vioscy stavić dvupavierchavyja damy, bo heta daražej abyšłosiab, jak zaaščadžany budaŭlany plac i supolnaja stracha, tak nia ŭsiudy apłacicca rabić i roznyja melioracyi, bo nadvyžka ŭradžaju moža i nie pakryć ułožanych u melioravańnie koštaŭ. Ci jašče praściej kažučy, usiestarońnija melioracyi apłaciacca pierad usim tam, dzie ziamla vielmi darahaja, napr. blizka haradoŭ i pramysłovych centraŭ, abo tam, dzie ziamli volnaj zusim niama. Častkovaja i drabniejšaja melioracyja, jak napr. asušeńnie i vyraŭnavańnie kupinaŭ, padabrańnie kamieńniaŭ i h. p., zaŭsiody apłacicca.

Skazana było ŭžo, što ŭ melioravańni hruntoŭ zainteresavany byvajuć tak-ža čyńniki samaŭradavyja i dziaržaŭna-administracyjnyja. Vot-ža i ŭ najnaviejšych investycyjnych polskich prajektach, u jakich z ahulnaj sumy 2 miljardaŭ zł. dla siała pradbačycca 105 miljonaŭ ($5^1/_4$ prac. abo $^1/_{20}$ časć), na melioracyju praznačana 30 miljonaŭ zł. Za hetyja hrošy ŭžo zaprajektavana — abvałavać bierahi Visły na prastory 150 klm., i ŭrehulavać łahvo pierad usim hetaj-ža samaj raki. Ci što z hetaha astaniecca inšym — tymčasam cicha. — A znača spadziavacca na kahości — heta reč ryzykoŭnaja. Najpeŭniejšaje toje, što čałaviek sam sabie zrabić.

Č. V.



ку гэту трэба старацца ў гміннай касе. Дастаць яе можа ўласьнік ня большай гаспадаркі, як 35 га.

**Цэны за сьпірт,** што выгнаны будзе за 1938/39 год, вызначаны гэткія: за 100 літраў у Віленшчыне 75 зл. 78 гр., у Навагрудчыне 71 зл. 31 гр., у Беласточчыне—68 зл. 85 гр., на Палесьсі — 70 зл. 21 гр.

**Наш лён заграніцай** за 9 месяцаў 1938 г., у параўнаньні з такім-жа часам 1937 г., стаўся больш ходкім як што да самага тавару (на 33 прац.), так і што да цаны (на 20 прац.). Пакульле і пачасьсе йдзе асабліва ў Нямеччыну, Англію, Югаславію і Швэцыю, а ўсякія нашыя тканіны з лёну далей вельмі расходзяцца ў Амэрыцы (Паўночныя Штаты, Канада і Аргентына), у Англіі, Паўдз. Афрыцы, Нарвэгіі, Швэцыі і Даніі.

**За 100 літаў 90 зл.** Па падпісаньні гандлёвага дагавору Польшчы з Літвой устаноўлена пры разьлічэньнях рахаваць за 100 літоўскіх літаў 90 польскіх злотаў.

**Для пчолаў цукру** дэнатураванага сёлета можна купляць па 5 клг. на 1 пень.

**Экзаміны** для кіраўнікоў малачарняў абавязкавы і трэба іх здаць найпазьней да 1.7.1939 г. Здаваць гэтыя экзаміны можна пры агранамічным Аддзеле Віленскага Унівэрсытэту.

**Парцэляцыя ў 1939 і 1940 г.** Распараджэньнем Рады Міністраў з дня 11 лютага сёл. (Dz. U. R. P. №12) устаноўлены сьпісак двароў, якія павінны будуць пайсьці пад парцэляцыю. На землях заселеных Беларусамі, паводле гэтага распараджэньня, парцэляцыі ня будзе. У 1940 г. на гэтых-жа землях з казённых і банкаўскіх двароў мае быць распарцэлявана: у Беласточчыне — 2.600 га, у Віленшчыне—200 га., у Навагрудчыне—100 га, на Палесьсі —1,100 га, а з прыватных двароў:—у Беласточчыне—3.000 (у гэтым 2.200 га ў паветах: Аўгустоўскім, Беластоцкім, Бельскім, Горадзенскім, Сакольскім, Сувальскім, Шчучынскім, Ваўкавыскім), у Віленшчыне 6,000 га, у Навагрудчыне — 8,000 га, на Палесьсі—9,000 га. — У іншых мясцох парцэлююць больш, напр. у Пазнаншчыне 23,000 га, на Паморʻі—19,500 га.

**Штучную бэнзыну,** гэтак званы альгаз, прыдумаў анагдай варшаўскі прафэсар Клінг. Будзе гэта мяшанка 90 прац. сьпірту з 10 прац. зямнога газу протану і бутану. Застасаваньне гэтай мяшанкі дзеля пагону ўсякіх машынаў мела-б вялікае значэньне і для земляробства (для бравароў).

**Новыя бравары на Палесьсі,** пайменна ў Берасьцейскім павеце: у Лышчыцах, у вёсцы Голя і на абшары гміны Каменец-Літоўскі, пастаноўлена будаваць у хуткім часе. Адзін з гэтых бравароў (у Лышчыцах) мае быць коопэратыўны. Усе бравары рахуюць на збыт сьпірту на выраб штучнага каўчуку ў Ц.О.П.—е.

**Малачарня коопэратыўная** мае паўстаць у Солах, Ашмянскага пав. Адначасна малачарню ў Дайнаўцы надзорчыя ўлады пастанавілі далучыць да малачарні ў Цюдзенішках.

**На земляробства** адрахавана ў сёл. інвэстыцыйным пляне Польшчы толькі 105 міл. зл. з агульнай сумы 2 мільярд. злотых. Гэтыя 105 міл. зл. маюць быць падзелены гэтак: 1) 60 міл. зл. на зямельную рэформу (з гэтага: 27.6 міл. на забудаваньне, 17,4 на пазычкі для пераходзячых на хутары, 5 міл. пазычкі для асаднікаў і 10 міл. зл. на загаспадараваньне сенажацяў), 2) 30 міл. зл. на мэліорацыі і 3) 15 міл. зл. на запамогі пры арганізаваньні збыту земляробскіх прадуктаў (будова элеватараў і магазынаў на збожа, садовіну, варыва, бравароў малачарняў, рыбных басэйнаў). —



„Самапомач" выходзіць раз на месяц
ПАДПІСКА на „Самапомач": на год — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — кожнага нумару на цэлы год — 10 зл., а 10 экз. — 15 зл. Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам" на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Завальная 1. Рэдакцыя адчынена штодзень ад гадз. 13 да 15.

Redaktor K. CZERTOWICZ Wydawca: „BIEŁPRES"
Рэдактар К. ЧЭРТОВІЧ. Выдавец: „БЕЛПРЭС"
Białoruska Drukarnia Im. Fr. Skaryny w Wilnie: Zawalna 1.
Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1.



і сказаў чэхам колькі год наперад, што прападуць іхнія буракі: чэскія сяляне сьмяяліся з гэтага, але словы слаўнага прафэсара ў азначаны год спраўдзіліся. На слабенькія буракі кінуліся жукі і зьнішчылі ўвесь ураджай. Ад таго часу чэскія гаспадары зразумелі значэньне потасу, асабліва пад акопніны, і штогод прыдаюць пад буракі і бульбу потасавую соль.

Вот-жа *азот, фосфар і потас* гэта тры рознародныя стравы, якія мусяць быць у зямлі, каб яна добра радзіла. Калі аднэй з іх ня хопіць, дык збожа або кепска расьце, або слаба родзіць (неўмалотнае) або вылягае і хварэе.

## Як азот вандруе сьветам?

Гэтыя тры спажывы, азот, фосфар і потас, знаходзяцца ў хляўным гнаі і таму гэты гной гэтак узмацоўвае ўраджайнасьць глебы. Як абхадзіцца з хляўным гноем, аб гэтым мы пагаворым пасьля, а цяпер варта было-б ведаць, як людзі навучыліся даставаць азот, фосфар і потас штучным спосабам. Бо натуральнага гною ня ўсюды хопіць. Акрамя таго не для кожнай зямлі хапае гнаеньня гноем хляўным.

Вот-жа так: фосфар і потас—гэта цьвёрдыя целы, якія людзі дабываюць ці то з касьцей, ці з жалезнага жужля, ці выкопваюць з зямлі. Але з азотам справа крыху труднейшая, бо гэта ёсьць газ і найбольш ёсьць яго ў паветры. Уходзіць ён таксама ў склад цела людзей, жывёлы, ёсьць ён у морскай вадзе, у салетры і г. д. Ня так таму даўна, як людзі навучыліся штучна лавіць азот з паветра і рабіць з яго штучны азотны гной, хоць, праўда, даволі дарагі. На рысунку бачым, як той газ, азот вандруе сьветам, а ўсё кругом навокал, ад зямлі. У зямлі вада яго распускае і крыху йдзе да карэньчыкаў расьліны, а крыху йдзе з вадой у рэкі і мо-


ЯК ВАНДРУЕ АЗОТ
АЗОТ у ПАВЕТРЫ
марскія бактэрыі перарабляюць яго на
АЗОТ у МОРЫ
з вадою плыве у мора рэкамі
уходзе у
расьлінныя бактэрыі
перат- варэцца
у расьлінны бялок
з расьлінных харчоў пераходзе ў цела жывёлы
людзкі і жывёлінны азот
даходзе ў зямлю з калам, мачою
з трупам
АЗОТ у ЗЯМЛІ
аммоньякавыя солі, салетра
з імі азот вяртаецца ў зямлю
грунтавыя бактэрыі
штучных гнаёў
з паветра ловяць яго ў фабрыцы
з паветра ловяць яго

ра. У моры ёсьць такія бактэрыі, якія пералоўліваюць азот і выпускаюць яго ў паветра. З паветра-ж яго ўзноў ловяць некаторыя расьліны і ўцягваюць у сябе; таксама людзі і зьвяраты спажываюць яго ў харчох і перарабляюць у сваім целе на бялок; пасьля варочаюць яго ў зямлю з калам ды — па сьмерці — з сваім целам. І так усё йдзе кругом навокал спаконвякоў, ад зямлі і назад у зямлю, і ўсё так, што не загубіцца аніводная частачка таго газу. Прыгледзьцеся добра да рысунку.

## Як матыльковыя расьліны узбагачваюць зямлю?

Найгалаўнейшая спажыва для расьліны гэта *азот*. Ад гэтай спажывы — азоту, як сказана, усё расьце буйна. Пустыя, сьветлыя землі патрабуюць шмат азоту. Шмат гэтага азоту ёсьць у паветры і калі-б можна было даць яго ў зямлю, дык тады блізу ніколі ня трэба было-б гнаіць. Тады ўсё, што гаспадар пасеяў-бы, расло-б нязвычайна буйна, ня трэба было-б тады гною, бо азот з паветра мог-бы ўгнаіць усю зямную кулю. Азот у паветры гэта газ. Ён зьмешаны тут з другімі газамі і яго мы што хвіліну ўдыхаем. Аднак пры дыханьню ён нам нічога ані памагае, ані шкодзіць. Але ў прыродзе ён, так бы сказаць, ёсьць спружынай, якая трымае ўсё жыцьцё, бо з яго расьліны твораць сабе бялок. А бялок гэта людзкая спажыва. Бялок ёсьць у зярняці, у агародніне, у мясе, у яйку і г. д. Вельмі мала бялку ёсьць у бульбе. Калі-б карміць чалавека аднэй толькі бульбаю, дык ён хутка аслабеў-бы і страціў ахвоту да жыцьця. Калі чалавек выздаравее па цяжкай хваробе, дык у яго пад вачыма ёсьць сінцы, ахвота да жыцьця малая. Цела людзкое па ўтраце бялкоў ёсьць павольным, сам чалавек сумны, а пад вачыма пачарнелыя кругі.

Моц усякага насеньня знаходзіцца ў бялку. Дзеля таго азот, як галоўная складовая частка бялка, у гаспадарцы ёсьць вельмі важным і таму ўвесь сьвет думае ўжо праз даўгія гады аб тым, як-бы найтанейшым способам даставаць гэты азот з паветра. Сам азот у зямлю йсьці ня хоча, бо ён мягчэйшы ад паветра, рукамі ці лапатаю набраць яго ня можна, бо ён нявідомы, лятучы газ,—вот і ўся бяда.

А расьліна вельмі патрабуе яго да буйнага росту. Ды з даўных гадоў заўважылі вучаныя гаспадары, што некаторыя гаспадарскія расьліны маюць у сабе нязнаную сілу, якая памагае ім хапаць азот з паветра, быццам яблык з яблыні. Расьліны гэтыя, калі толькі маюць у зямлі даволі фосфару і потасу, растуць буйна азотам з паветра, які самі сабе зьбіраюць. Што-ж гэта за цудатворныя расьліны? Гэтых расьлінаў шмат, а ўсе яны належаць да групы расьлінаў матыльковых, бо цьвет іхні звычайна падобны бывае да матыля. Гэта ёсьць: канюшына, люцэрна, сэрадэля, боб, бобік, віка, гарох, соя, лубін і г. д. Цяпер нам будзе ясна, чаму па канюшыне добра ўдаецца пшаніца, жыта і ўсякае дабро.

Пшаніца звычайна любіць азот. А таму што канюшына падчас росту свайго сьцягвае ў зямлю шмат азоту, дык пасеў канюшыны гэта быццам тое, што пагнаіць той-жа кусок зямлі гнойнай жыжкай ці дарагой салетрай.

Цікава цяпер знаць, як матыльковая расьліна можа прыцягаць азот з паветра, бо ніякае-ж збожа, ці агароднiна такой штукі не дакажа. Вот-жа дзеецца яно так: канюшына, віка і другія матыльковыя расьліны на карэньчыках сваіх вытвараюць маленькія бародавачкі, зразу як малое зерне, а пасьля большыя. У гэтых бародавачках загнежджываюцца вельмі малыя, голым вокам нявідомыя жыватворы, якія называюцца бактэрыямі. Гэткая бактэрыя ў канюшыны сядзіць быццам «на куце», бо мае дзе прытуліцца, мае так-бы сказаць пазычаную кватэру!

А за гэта пускае расьліне ў лісткі нешта, быццам сьліну, якая дразьнячы яе дае ей моц-сілу прыцягваць да сябе, быццам магнэсам, азот з паветра.


Барадаўкі на карэньнях канюшыны

Вось тут і ўся тайна. Збожа, на вялікі жаль, такіх барадавак вытварыць ня можа і таму мусіць мець гатовы ўжо азот у зямлі. Разумны гаспадар ніколі не засявае збожа па збожы, а толькі ўперамежку, раз з канюшынай, іншы раз з вікаю ці бобікам і гэткім спосабам карыстае з тых вялічэзных скарбаў, якія знаходзяцца ў паветры. На пяскох і на лягчэйшых землях зараз па жніве сеюць лубін, які позна ўвосені прыворываюць. Гэткім спосабам можна найтаней з благой зямлі зрабіць ураджайны перагной. Такое гнаеньне называецца **зялёным**.

Калі поле зааром і праз цэлы год пакінем пад папарам, дык у ім таксама множацца азотныя бактэрыі, якія маюць тую самую сілу, як і ўспомненыя бактэрыі на карэньчыках канюшыны. Гэта добра знаюць старыя гаспадары, якія што трэці год пакідалі поле пад папарам (трохпалёўка). — Словам, матыльковыя расьліны—гэта вялікія прыяцелі гаспадара і хто з імі пабратаецца, у таго заўсёды даволі хлеба і малака.

## Дзе йшчэ знаходзіцца азот?

Вельмі многа азоту ёсьць яшчэ ў гнойнай жыжцы (у мачы). Кожны-ж ведае, што калі падліць гнойнай жыжкай якую-небудзь расьліну, дык яна зараз

пасьпешна расьце і набірае цёмна-зялёнага колеру. Знаю аднаго гаспадара, што з году ў год падлівае гнойнай жыжкай авёс і зьбірае ў сярэднім з гэктара 35—40 мэтр. цэнтнараў (220—250 пудоў). Само сабой разумееецца, што да паліваньня ня можна браць гнойнай жыжкі чыстай, бо тады яна за вострая і паліць. Трэба яе прад тым распусьціць вадой, даючы на 1 вядро жыжкі 2 вядры вады.

Калі цяпер кожнаму стала ясна, што азот гэта дарагая рэч, ды што мае ў сабе вялікую сілу, дык і шкода стане, калі паглядзіш, як па нашых сёлах выцякае гэта жыжка ў прыдарожныя равы. Нават нікому і ў голаў ня прыйдзе, што выпускаючы гнойную жыжку ў равы выкідае чалавек з кішаня грош у балота. Калі-б гэтак зрабіў чэскі ці нямецкі гаспадар, дык ён са стыду ня мог-бы паказацца на сяло, каб на яго малыя дзеці ня крычэлі «ты, марнатраўнік?» Найлепш зрабіць сабе на гнойную жыжку бэтонную яму, у якую гэта жыжка сьцякала-б трубкамі. Тады і жывёла не запэцкаецца і карысьць будзе з жыжкі. Ад гнойнай жыжкі добра расьце трава і таму найлепш вывозіць яе ўвосені або ранньняй вясной на сенажаць. Разумееецца, трэба мець да гэтага асобную бочку, якую ня цяжка некалькім гаспадаром купіць на супалку. Добрая таксама гнойная жыжка пад буракі, капусту і ўсякую агароднiну. Пад збожа трэба даваць яе вельмі асьцярожна, бо збожа можа вылегчы.

Таксама ў людзкім кале ёсьць многа азоту і іншай спажывы для расьліны.

## Аб штучных азотных гнаёх і як іх высейваць

Аб азоце пішу я зараз на пачатку, бо ён, як сказана, надзвычайна важны, а ў зямлю прыцягнуць яго цяжка. Гаспадар павінен найбольш думаць аб тым, як танным спосабам дастаць азот. Расьліны

матыльковыя патрабуюць даўжэйшага часу, пакуль па крышцы назьбіраюць гэтага газу. А тут няраз трэба яго ў гаспадарцы зараз-жа, бо нпр. азіміна выйшла з зімы ня добра. Гнойнай жыжкі гэтулькі няма, каб паліць ёй колькі гэктараў, а падмацаваць зямлю няраз канешна трэба. Тут нам памагчы можа так-бы сказаць штучная гнойная жыжка — угнаеньне, якое мае ў сабе азот.

Штучных азотных гнаёў ёсьць шмат. Успомнім тут аб гэткіх, як: 1) чылійская салетра, 2) штучная салетра (з азотам з паветра), 3) азотняк, 4) серкава-амонная соль, 5) нітрофос. — Чылійская салетра вытварылася сама ў ПаўдзённайАмэрыцы, у Чылі; прывозяць яе да нас у маленькіх крышталах... Памагае яна вельмі хутка, так што ўжо за тыдзень ёсьць добры знак. Высейваць яе трэба ў ясны, пагодны дзень, не пад дождж ані на расу, бо спаліць.

Калі гнаіць салетрай пад збожа, дык на гэктар даецца 60 да 100 клг. Звычайна ня трэба высейваць усей салетры зараз, а падзяліць усю порцыю на дзьве часткі, бо вада салетру хутка выпалаквае. Па першым салетраваньні за два тыдні можна даць частку другую.

Пад буракі першы раз даецца салетра тады, калі выпусьцяць 2 праўдзівыя лісткі, а другі раз тады, калі іх — буракі — прарываюць. Чылійская салетра акрамя азоту мае ў сабе йшчэ крыку іоду і таму буракі ад яе гоняць уверх. Буракі вельмі любяць іод, бо яны выгадаваны над морам, а морская вада на іод багатая. Іншыя салетры іоду ня маюць і таму пад буракі так добра ня прыгодны, як салетра з Чылі.

Салетру штучную робяць пры помачы вельмі сільнага току электрычнасьці. У дзьве праціўлежныя жалезныя галкі пускаюць электрычны ток. Пад сільным напяцьцем электрычная сіла пераскаківае з аднэй галкі на другую, засьвечвае сільным агнём і ў гэтым сьвятле вольны паветраны азот траціць сваю

«дзікасьць». Азот гэты, прад тым вельмі няпрыступны, што ніяк не даваўся выкарыстаць, цяпер быццам вяне і пазваляе рабіць з сабой што толькі чалавеку захочацца. Вот-жа ў гэту пару падаюць яму вапну, вяжуць — быццам скаціну на вяроўку — і прадаюць пад назовам салетры вапнянай, або паветранай (з паветра). Высейваецца яна зусім так, як салетра чылійская.

Трэба йшчэ прыпомніць, што азот знаходзіцца ў выбуховых матар'ялах і памагае вясьці вайну, разьдзіраючы людзкае цела. Нямеччына ў часе Сусьветнай Вайны толькі з паветранага азоту магла рабіць розныя бомбы, бо з заграніцы не даставала нічога. Такая фабрыка ёсьць у Польшчы, у Хожаве, якая вырабляе хожаўскую салетру, або нітрофос. **Нітрофос** акрамя азоту мае ў сабе йшчэ і фосфар і таму гоне збожа ўгару і дадае зярняці вагі. Яго дажджавая вада не выпаласківае лёгка і затое нітрофос вельмі добры на пяскох.

**Серкава-амонная соль** даволі дарагая, але ў ёй двойчы гэтульку азоту, колькі ў салетры; вельмі добрая пад бульбу. На квасныя грунты (падмоклыя) ня прыгодна.

**Азотняк** мае ў сабе і азот і вапну. Пры высейваньні трэба на рукі надзяваць рукавіцы і апранаць старую вопратку, бо паліць. Разсеяны азотняк трэба зараз-жа прыбаранаваць, бо йнакш ён да нічога. Сеяць можна аж за тыдзень. Ня можна таксама пры высейваньню азотняка піць алькаголю, бо тады ён атрувае чалавека. На гэктар даецца азотняку 200 да 300 клг. На сьветлыя гліны, якія ані крышкі ня маюць у сабе чарназёму, а таксама на грунты падмоклыя азотняк ня добры.

З усяго гэтага бачым, што для малазямельнага гаспадара найлепш і найтаней гэта берагчы ў гаспадарцы гнойную жыжку і зараз па жніве засяваць поле мяшанкай вікі з бобікам, або лубінам, а познай восеньню ўсё гэта прыараць. Толькі ў вы-

падку канешнай патрэбы можна адважыцца купіць штучны азотны гной, бо ён вельмі дарагі.

## Аб гнаёх фосфарных

Ад іх збожжа добра наліваецца, садовыя дрэвы маюць шмат завязі, а агародніна добра перахоўваецца.

Фосфарныя гнаі знаем такія:

1. Томасыну і 2. Супэрфосфат.

1. Томасына — гэта адпадак пры фабрыкацыі сталі. Ведама, што сталь павінна быць гібкая, а ня крохкая. Дзеля таго пры вырабе яе гэту крохкасьць трэба выгнаць хімічным спосабам. Работнік, які называўся Томас, выдумаў добры спосаб вырабу сталі. Ён пераканаўся, што ўсю крохкасьць надае жалезу фосфар. Калі-б гэты фосфар з жалеза выдастаць, дык тады яно было-б гібкае. Дасьледаваньнямі і доўгалетнім нагляданьнем гэта штука яму ўдалася. У гарачую, растопленую масу жалеза сыплецца зьверху вапна і добра перамешваецца. Гэта вапна ўцягівае ў сябе фосфар так, як губка ўцягвае ваду, і, сьцягнуўшы з сабой крыху жалеза, выплывае наверх быццам аліва. Пасьля гэтыя шумавіны зьбіраюць вялікімі палойнікамі і выкідаюць, а жужлі стынуць. Пасьля перамолываюць іх на мелкую муку, пакуюць у мяшкі і высылаюць у сьвет.

Як бачым з спосабу вырабляньня, дык томасына мае ў сабе вапну, фосфарны квас і крыху жалеза. На 100 клг. томасыны ёсьць каля 50 клг. вапны, 12—18 клг. фосфарнага квасу, а рэшта гэта жалеза. Фосфарны квас з томасыны распускаецца ў зямлі памалу і таму трэба томасыну сеяць раней перад пасевам насеньня, каб хоць крыху ў зямлі разлажылася. Гнаеньне томасынай на 6 тыдняў перад сяўбою гэта найлепшае. Трэба пры гэтым заўважыць, што томасына ня паліць і няма ніякага страху сеяць яе разам з насеньнем. Тады яна толькі вельмі слабенька праяўляецца. Чым мялчэй томасына змо-

лата, тым яна лепшая, тым хутчэй у зямлі распускаецца. Калі такая томасына паходзіць з фабрыкі, якая выробляе добрую сталь, дык тады й мае шмат фосфару. Добрая томасына заграністая — чэская, бэльгіцкая, нямецкая.

На гэктар даюць томасыны 4 да 6 мяшкоў (па 100 кілё кожны). Даецца яна на грунты лёгкія (вада яе не выпаласківае) і на заквасьнелыя пад азімае збожа і пад пладовыя дрэвы. Пшаніца вельмі любіць томасыну затое, што ў ей ёсьць вапна. Пад яравое збожа томасына не надаецца, бо вельмі памалу распускаецца.

2. **Супэрфосфат** вырабляюць з касьцей, або з каменьня, якое называецца фосфорытамі.

Да размеленага сырцу дадаюць серкавага квасу, які даводзіць фосфарны квас у стан распускальны.

Знача, супэрфосфат—гэта, так-бы сказаць, гной звараны, які расьліна можа зараз-жа ўбіраць, а томасына—гэта нешта сырое, якое ў зямлі мусіць яшчэ пераварыцца.

Таму супэрфосфат добры пад усякую ярыну, якая жыве коратка і патрабуе зараз гатовай спажывы.

Нядобры супэрфосфат на грунты квасныя, бо ён сам (ад серкавага квасу) крыху квасны і зямлю яшчэ больш заквашвае. На гэктар трэба даць супэрфосфату 2—4 мэтр. цэнтнары, а разсяваць яго трэба ўдзень сяўбы зерня. Пад бульбу можна даваць па лыжцы нават у ямкі, пад агароднiну зьмяшаць з зямлёю. З хляўным гноем і вапнай ды жалезнымі адпадкамі (томасына) мяшаць яго ня можна, бо зьнішчыцца (выветрае). Таксама на чырванавых землях (багатых на жалеза) ён нядобры.

## Потасавыя штучныя гнаі

гэта:

1) 40 прац.—*чытай:* сорак-працэнтная—потасавая соль,

2) 20—30 прац. " потасавая соль.

3) Каініт — мае 10 прац. потасу.

Потасавыя гнаі затрымліваюць у зямлі вогкасьць і ўплываюць на тое, што збожа лепш пературымлівае зіму. Потасавую соль і каініт дабываюць з зямлі ў Галіччыне, у Калушы і ў Стэбніку.

## Пад акопніны ды на пяскі і тарфянішчы потас канешна патрэбны

Глінястыя землі маюць потасу даволі... Затое ў тых мясцох і сёлах, дзе ёсьць пясок, або торф, у першую чаргу трэба пастарацца аб угнаеньне потасам.

Перад усім акопніны (бульба, буракі) спатрабоўваюць вялікае мноства потасу. Любіць потас таксама капуста і іншая агароднiна.

Потасавыя гнаі трэба засяваць раней, перад садзьбой, бо йнакш яны паляць і замест памагчы— шкодзяць. Чыстага потасу (без дамешкі) трэба на гэктар 80 клг. Знача, калі разсейваем 40 прац. потасавую соль, дык яе трэба ўзяць 200 клг. Калі соль 20 прац., дык яе трэба 400 клг. Каініт ёсьць 10 прац., знача трэба яго 800 клг. на гэктар.

Чым больш даём у зямлю потасу (потасавых угнаеньняў), тым больш даём труючых газаў, якія называюцца хлёрам. Потасавыя гнаі маюць дамешаны хлёр. Найбольш ня любіць хлёру бульба. Таму, што каініт мае мала потасу і яго трэба шмат разсейваць, ён найбольш затручывае зямлю і таму пад бульбу трэба яго высейваць за доўга перад садзьбой, найлепш увосені. Праз зіму сьнегавая вада гэту атруту (хлёр) спалошча і зробіць яго няшкодным. Ячмень шкодных дамешак каініту не баіцца, а нават лепш расьце і таму пад яго можна даць каініт вясной.

Пад бульбу і буракі найлепш даваць потасавую соль, якую высейваем вясной, месяц перад садзьбой.— Каініт пад бульбу трэба бязумоўна высейваць увосені.

## Чаму няраз зямля зусім ня хоча радзіць?

Трапляецца няраз так, што зямля ня хоча радзіць, хоць-бы ей прыдаваць няведама якіх гнаёў. Такія землі звычайна квасныя—затручаныя, а культурная (ня дзікая) расьліна квасаў вельмі ня любіць. Гэта зусім зразумела, бо й людзкае цела ня можа цярпець пастаяннай кваснай спажывы. Ніводзін чалавек ня выглядаў-бы добра, калі-б яму штодзень дадаць да стравы напр. літр воцту. Ад гэтага чалавек за колькі дзён пабляднеў-бы, з часам расхварэўся-б і памёр.

Гэтак і з зямлёю. Дзе расьце шмат гугалю (хвашчаўніку), шчаўя, а ў дадатку дзе ня хоча расьці канюшына, там зямля квасная і яе трэба адквасіць, зрабіць салодкаю. Робіцца гэта пры помачы вапнаваньня.

## Як трэба квасную зямлю вапнаваць?

Вапняны парашок (адпадкі) разсейваем па полі (15—20 мэтр. цэнтнараў на га) і зараз таго самага дня вапну гэту прыкрываем (забараноўваем). Калі здарыцца разсяваць вапну па аржышчы, тады трэба яе мелка прыараць. Калі няма пад рукой вапняных адпадкаў, тады трэба развязьці па полі і пасыпаць кучкамі кускі звычайнай гашанай вапны і гэтыя кучкі прыкрыць зямлёй. За тыдзень вапна ў кучках рассыпецца на парашок і тады разсяваецца так, як было сказана раней. На наступны год пасьля вапнаваньня такое поле трэба абавязкава пагнаіць хляўным гноем. Вапнуецца поле раз на 6 гадоў.

Але ня можна вапнаваць зямлі пад бульбу, бо тады яна струпела-б. Таксама ня можна адразу па вапне вывозіць хляўны гной, бо вапна яго спаліць. Найлепшая пара дзеля вапнаваньня гэта восень, бо тады вапна мае час да вясны выляжацца. Можна

аднак вапнаваць і раньняй вясной, аднак сеяць па гэтым можна не раней як за тыдзень.

Ад вапны зямля вельмі крушэе, аграваецца і добра родзіць. Вапнуюцца таксама і квасныя сенажаці, аднак перад тым трэба з іх добра выбаранаваць мох.

## Чым угнойваць сенажаці, каб на іх добра расла трава

На сенажаць падмоклую не аплаціцца даваць ніякіх гнаёў. Таму трэба яе наперад асушыць адкрытымі равамі і аж пасьля пагнаіць. Перад усім трэба добра выбаранаваць мох. Барануецца ўздоўж і ўпоперак, каб сенажаць аж пачарнела. Добра йшчэ, калі парэзаць яе ўздоўж нажамі, каб у нутро даходзіла паветра. Такія нажы мае адумысная снасьць, якая называецца скарыфікатарам. Скарыфікатарам сенажаць адмалоджваецца.

Усе купіны (курганы) на сенажацях трэба зрэзаць сенажатным гэблем, ці хоць-бы звычайнай лапатай, і пазнасіць у адно месца, а голыя мясцы трэба пазасейваць травой і канюшынай. І тады толькі трэба разсеяць на гэктар сенажаці 800 клг. каініту і 400 клг. томасыны і яшчэ раз забаранаваць. Калі сенажаць вельмі пустая, напр. на пяскох, дык там трэба йшчэ даць 100 клг. салетры, двума наваротамі (па 50 клг.) або падліць гнойнай жыжкай.

Гэтак дбаюць аб добрую пашу. Гэтак выробленая сенажаць і пагноеная пакрыецца незадоўга салодкімі травамі й канюшынаю, якую смачна будзе зьядаць жывёла. Гэткая паша зможа пабольшыць удой малака і дасьць нам у рукі сталую месячную гатоўку на пакрыцьцё канешных выдаткаў.

## Ці добра, калі хляўны гной вывозіцца на кучкі?

У нас ёсьць вельмі благі звычай, што гаспадары вывозяць хляўны гной на малыя кучкі і кідаюць

іх на полі няраз месяцамі. Калі глянуць пасьля на збожа, дык там, дзе ляжала кучка гною, збожа буйнае, аж чорнае. Выглядае яно так, як быцам нехта парабіў на ім чорныя плямы. Гэтыя чорныя плямы паходзяць ад таго, што шмат спажывы з гною ўпілося ў зямлю. Калі-б гэта спажыва, што ўпілася ў зямлю ў адным месцы, разыйшлася па шыршым кавалку, дык ня было-б гэтай буйнасьці кусткамі, але рост злепшываўся-б больш роўнамерна, поле, такбы сказаць, было-б больш выгладжанае. Ад гэткіх кучак гною развезеных па полі ня толькі тая шкода, што поле «паплямленае», але яшчэ і тая, што шмат карыснага газу (амоньяку) з кучак уцякае ў паветра і прападае раз на заўсёды. Дзеля гэтага гной, які доўга ляжыць на кучках, выветрываецца і марнуецца.

Гаспадару-ж гэтак уцякаюць з рук грошы, зямля бяднее, ураджай не пабольшываецца, а бяда не дае супакою.

## Хляўны гной трэба як найхутчэй прыворываць

Каб гной добра затрымаў сваю сілу, трэба яго як найхутчэй прыараць. Калі вывозім яго на поле на кучкі, дык ня трэба доўга чакаць, а зараз на другі дзень растрэсьці і прыараць.

Калі з якіх небудзь прычын (у гаспадарцы бываюць розныя перашкоды) ня можна гною прыкрыць, дык лепш ужо растрэсьці яго па полі, нават па сьнягу, чым трымаць у кучках.

Калі вывозім гной узімку, дык найлепш вывозіць на адну або на дзьве вялікія чатырохкутныя кучы. Іх трэба добра ўбіць, а вясной развясьці, растрэсьці і зараз прыараць.

## Як хадзіць каля гною ў гаспадарцы?

Гной, як мы казалі, мае ў сабе цэнны газ, амоньяк, які вельмі любіць уцякаць. Ён уцякае ня

тольki тады, як гной ляжыць на кучках, але таксама і з гнойнішча. Гнойнішча, калі добра ўладжана, можа быць вялікім жаралом багацтва, але таксама і першаю прычынай абядненьня, калі яно такое, што гной на ім марнуецца.

Благое гнойнішча мае дно мяккае, прапускальнае, а гной ляжыць на ім надуты, як падушка. З такога гнойнішча гнойная жыжка ўцякае звычайна на вуліцу, а гаспадар толькі вечна і думае, як-бы яе пазбыцца.

Добрае гнойнішча мае дно з бэтону, непрапускальнае, так, што ні крышачка ня пойдзе ў спод. Пасярэдзіне ёсьць выбэтонаваная яма на гнойную жыжку, якую час-ад-часу вывозяць разьведзеную вадой на сенажаці, або на агародніну.

## Благі гаспадар аб гнаі ніколі ня дбае

Добры гаспадар у гарачыя дні палівае зложаны гной вадой (ня гнойнай жыжкай!), час-ад-часу пераганяе праз гной коні і ўбівае яго, гнойную жыжку беражэ як вока ў галаве, а для сям'і ставіць зацішак (адходнае месца, клёзэт), бо людзкі кал гэта добры гной пад агародніну і пад буракі. У куточку на панадворку ськідае ўсякае сьмяцьцё, як зялёнае пустазельле, адпадкі з хаты, з хлява, бульбоўнік і г. д., і калі сьмяцьцё паляжыць год-два, дык мае вельмі добры **кампост**, які блізу раўняецца салетры.

## Як рабіць гной на полі?

Часам хлеўнога гною не хапае, штучнага няма зашто купіць, а гнаіць трэба. Тады найлепш рабіць гной проста на полі. Гавару аб зялёных гнаёх. На пяскох і на другіх землях, якія з прыроды сваей пустыя, засейваць трэба такія расьліны, якія самі зьбіраюць з паветра азот, а пасьля іх прыворываць.

Расьліны гэткія наступныя: лубін жоўты (сеяць там, дзе няма вапны, знача на шчырых пяскох, але непадмоклых), лубін сіні (можа быць у зямлі крыха вапны, але ня шмат), бобік з вікаю, сэрадэля і г. д. Канюшына на прыворываньне выйшла-б за дарага, бо з яе добрая паша, але добра, калі яе часта засейваць, бо і па зборы яе на пашу зямля ўсёроўна ўзбагачваецца, як па зялёных угнаеньнях. Сеяць расьліны, якія зьбіраюць з паветра азот, на зялёнае ўгнаеньне можна вясною (лубін таксама ў чэрвені ў жыта), або зараз пажаўшы збожа. Прыворываць трэба познаю восеньню.

На зялёных пагноях перад усім добра родзіць бульба і жыта.

## Якіх гнаёў патрабуюць нашы землі?

Нашы землі ня ўсюды аднолькавыя і таму добра будзе ў канцы сабраць коратка, якога гною дзе трэба. І так:

1. Пяскі патрабуюць нітрофосу (200 клг. на гэктар) і каініту (800 клг. на гэктар); вельмі добра аплачваецца на пяскох зялёнае гнаеньне (лубін, сэрадэля, мяшанка вікі з бобікам).

2. Гліна, асабліва цяжкая, потасу мае даволі і таму ня трэба гнаіць іх каінітам, ані потасаваю сольлю. Затое добры на іх супэрфосфат (200—300 клг. на га), а пад канюшыну — томасына. Калі гліна сьветлая і міма дадатку фосфарных угнаеньняў ня было добрых ураджаяў, тады трэба дадаць яшчэ салетры (60—100 клг. на га). Азотняк на сьветлых глінах памагае мала.

3. Землі тарфяністыя найбольш патрабуюць каініту (або потасавай солі) і томасыны. Каініту трэба даваць 800 (потасавай солі 40 прац.—200), а томасыны 400—600 клг. на гэктар.